


*Грамадска-палітычная газета для жыхароў Бялыніцкага, Круглянскага і Шклоўскага раёнаў*

# Рэгіён

**ЧЭРВЕНЬ 2014 г.** **№ 5 (46)**

## НАВІНЫ РЭГІЁНА

**Средняя зарплата в Могилевской области в апреле значительно уменьшилась.**

Номинальная начисленная среднемесячная заработная плата работников Могилевской области в январе-апреле 2014 года составила 4 915,3 тыс. рублей, в том числе в апреле – 5 062,9 тыс. рублей, и уменьшилась по сравнению с мартом на 0,9%, или на 44,7 тыс. рублей. Об этом сообщили в отделе статистики труда Главного статистического управления Могилевской области.

Реальная заработная плата (заработная плата, рассчитанная с учетом роста потребительских цен на товары и услуги) в январе-апреле нынешнего года по сравнению январем-апрелем прошлого увеличилась на 2,4%. В апреле по сравнению мартом года уменьшилась на 2,5%.

**Кіпр з'яўляецца асноўным замежным інвестарам Магілёўшчыны.**

За першы квартал 2014 года ён інвеставаў у эканоміку вобласці 36,4 мільёны долараў, што складае 43,7% ад агульнага аб'ёма інвестыцый.

На другім месцы знаходзіцца Расія (21,3%), трэцім Латвія (12,9%). За імі ідуць Турцыя, Дамінікі і Нямеччына.

Агульны ж аб'ём інвестыцый у вобласць за першы квартал года склаў 83,3 мільёны долараў ЗША.

**1000 л браги изъято в Белыничском районе.**

27 мая в 17 часов в лесном массиве вблизи деревни Большой Кудин Белыничского района обнаружено 1000 литров браги.

По информации УОПП УВД изъятие браги в Белыничском районе – самое крупное в области в текущем году.

# ПРА ПРЫГОННАЕ ПРАВА І МУДРЫХ КІРАЎНІКОЎ

**"Няма ў свеце такой сілы, якая б прымусіла калгасніка добра працаваць у калгасе".**

***В. К. Старавойтаў, старшыня калгаса "Рассвет" імя К. Арлоўскага, двойчы Герой сацыялістычнай працы***




На мінулым тыдні кіраўнік краіны Аляксандр Лукашэнка распавёў сваім любімым чыноўнікам, што ўжо падрыхтаваны дэкрэт, які забараняе працаўнікам вёскі мяняць працу і пераязджаць у горад.

У прыватнасці, былы хлопец з вёскі Александрыя Шклоўскага раёна даў наступныя ўказанні старшыням аблвыканкамаў нашай краіны (цытую на мове арыгінала): «Я ставлю жестко вопрос потому, что на столе декрет, о котором я говорил ранее. Вчера мне его положили на стол по поводу, ну, скажем прямо, крепостного права. Мы замыкаем на губернаторов все. Ты не уволишься и не перейдешь. Ну так начинайте же вы шевелиться, чтобы народ не сказал: что же вы нас зажимаете, а сами непонятно как работаете. Поэтому все полномочия в ближайшую неделю перейдут в руки органов власти и «шалтай-болтай» уже не будет».

Ну што тут можна сказаць – ці гэта так на Аляксандра Рыгоравіча набліжэнне пенсійнага ўзроста падзейнічала, ці ў свой час ён дрэнна гісторыю ў Магілёўскім педінстытуце вывучаў, дакладна не ведаю. Калі б добра вучыў, то даўно б ведаў, што прымусовая праца яшчэ ніколі нічога добрага ні адной краіне свету не прынесла. Рабская праца – неэфектыўная і малапрадукцыйная, з пад палкі чалавек ніколі добра працаваць не будзе, гэта нават школьнікі ведаюць. Тым больш, што над кожным міліцыянера не паставіш, яны і так ужо з "абавязанымі асобамі" "замудохаліся" – замест таго, каб займацца сваёй

*Працяг на стар. 7)*

# СВК “ЛЕБЕДЗЯНКА” ДАЛУЧАЮЦЬ ДА ААТ “БЯЛЫНІЦКАЕ РАЙАГРАПРАМТЭХЗАБЕСПЯЧЭННЕ”

**У Бялыніцкім раёне ліквідуецца гаспадарка, за газетны артыкул пра шматлікія праблемы ў эканоміцы якой пераследаваўся грамадскі актывіст.**




10 траўня ў вёсцы Лебедзянка Бялыніцкага раёна адбыўся агульны сход членаў СВК “Лебедзянка”, на якім было прынятае рашэнне аб далучэнні сельскагаспадарчага кааператыва да іншага сельгаспрадпрыемства – ААТ “Бялыніцкае райаграпрамзабеспячэнне”.

Чальцы кааператыва прынялі рашэнне аб далучэнні сваёй гаспадаркі да іншай у сувязі з тым, што СВК “Лебедзянка” не ў стане самастойна выплочваць заробкі сваім працаўнікам і плаціць велізарныя пазыкі дзяржаве, эканоміка гаспадаркі знаходзіцца ў заняпадзе.

“На агульным сходзе амаль усе выказаліся за аб’яднанне з ААТ “Бялыніцкае райаграпрамтэхзабеспячэнне”, - распавядае жыхар вёскі Лебедзянка Валерый Вусік. – Людзі выдатна разумеюць, што гаспадарка, дзякуючы яе папярэдняму кіраўніцтву, знаходзіцца ў занядбалым стане і не ў стане функцыяваць самастойна. Пра велізарную запазычанасць СВК “Лебедзянка” і дрэнны стан эканомікі кааператыва казаў і прысутны на сходзе першы намеснік старшыні Бялыніцкага райвыканкама , начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Аляксей Цапко. Зараз павінен адбыцца агульны сход працаўнікоў ААТ “Бялыніцкае райаграпрамтэхзабеспячэнне”, а пасля гэтага сумесны сход працаўнікоў двух гаспадарак і, калі большасць прагаласуе за аб’яднанне, СВК “Лебедзянка” будзе далучаны да райаграпрамзабеспячэння”.

Нагадаем паважаным чытачам, што былы старшыня суда Бялыніцкага раёна Уладзімір Гуз 29 сакавіка 2013 года пакараў штрафам у памеры 50 базавых велічынь жыхара вёскі Лебедзянка Валерыя Вусіка нібыта за паклёп у адрас старшыні СВК “Лебедзянка” Пятра Бялова і за распаўсюд незалежнай газеты “Магілёўскі Выбар”.

Чамусьці вельмі не спадабаўся паважанаму Уладзіміру Сяргеевічу і доблесным бялыніцкім міліцыянерам змешчаны ў газеце артыкул Валерыя Вусіка “Што змянілась за апошнія некалькі год у СВК “Лебедзянка”?”, у якім распавядалася пра цяжкі стан, у які патрапіла гаспадарка.

Суд не прыняў да ўвагі пісьмовыя сведчанні шэрагу жыхароў вёскі Лебедзянкі, якія пацвярджалі, што факты парушэнняў у дзейнасці СВК “Лебедзянка”, выкладзеныя у артыкуле Валерыя Вусіка “Што змянілась за апошнія некалькі год у СВК “Лебедзянка”?” у газеце “Магілёўскі Выбар”, сапраўды мелі месца.

Не прыняў да ўвагі суд і сведчанні выдаўца газеты “Магілёўскі Выбар” Барыс Вырвіча, што газета “Магілёўскі Выбар” выдаецца ў адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і Законам аб СМІ, і можа распаўсюджвацца любым грамадзянінам Рэспублікі Беларусь без усялякіх абмежаванняў.

Аднак 16 верасня 2013 года суддзя суда Бялыніцкага раёна Аксана Загорская пастанавіла спыніць адміністратыўную справу ў дачыненні да Валерыя Вусіка. Суд разглядаў два пратаколы аб адміністратыўным правапарушэнні, складзеныя ў лютым 2013 года ўчастковым інспектарам Сяргеем Карыткіным, – быццам бы за паклёп на былога старшыню СВК “Лебедзянка” Пятра Бялова (артыкул “Што змянілася за апошнія некалькі гадоў у СВК “Лебедзянка”, змешчаны ў газеце “Магілёўскі Выбар” і на інтэрнэт-сайце Zapraudu.info), а таксама быццам бы за парушэнне арт. 17 закона аб СМІ пры распаўсюдзе газеты “Магілёўскі Выбар”.

Пасля артыкула Валерыя Вусіка ў газеце “Магілёўскі Выбар” у СВК “Лебедзянка змянілася два старшыні праўлення, аднак выправіць сітуацыю ў гаспадарцы яны так і не змаглі. Зараз СВК “Лебедзянка” будзе далучаны да ААТ “Бялыніцкае райаграпрамтэхзабеспячэнне”…

Незразумела толькі, што ж хацелі даказаць бялыніцкія ўлады і слаўныя супрацоўнікі мясцовай міліцыі, якія ніяк не хацелі пагадзіцца з тым, што эканоміка СВК “Лебедзянка” дыхае на ладан і пераследавалі грамадскага актывіста за яго крытычны выступ у газеце “Магілёўскі Выбар”.

***Іван Барысаў***

# ГРИМАСЫ ПРИВАТИЗАЦИИ ИЛИ «РОМАНТИКИ С БОЛЬШОЙ ДОРОГИ»

**Последние 20 лет жизнь преподносит нам такие сюрпризы, от которых голова идёт кругом.**




Казалось, что удивить население белорусское уже невозможно, тем более задеть их «за живое». Ан, нет! Государственные чиновники умеют работать только там, где можно «пощипать денежку» с доверчивых обывателей. Когда после распада Советского Союза разрешили приватизировать госжильё, то многие ещё не понимали, что это такое, и решили оставить всё, как есть. Тем более, что 30% населения, не боюсь ошибиться, в г.п. Круглое были обмануты местными чиновниками от власти и не получили причитающиеся им чеки «жильё». Какой механизм изъятия данных ценных бумаг существовал тогда в райцентре, не расследовано никем, ни одним правоохранительным органом района, не смотря на многочисленные обращения обманутых граждан. Как правило, ответ один – «сам дурак»!! Вот и последний ответ прокурор района дал такой же.

Но что же остаётся делать тем, которых обманули дважды, а может и трижды? Сначала заявив им, что жильё барачного типа не подлежит приватизации, так как срок его эксплуатации всего 25 лет, а значит чеки «жильё» жильцам данного сектора застройки не положены. Так как по истечении положенного срока им, жильцам, будут предоставлены новые квартиры, или бараки будут переданы безвозмездно! Съев данную «утку», население успокоилось и принялось обустраивать временное жильё, потому что стремление жить в более комфортных условиях свойственно людям, которые умеют и любят работать, оно неотделимо от их трудолюбия. Жить «без удобств» продолжали только аморальные элементы, которые не только не ухаживали за арендуемым жильём, но и не платили за него годами.

Гром грянул потом!!! Когда государство объявило, что те, кто не приватизировал своё жильё будут вынуждены платить за него, как за арендуемое. И граждане «ломанули» срочно подавать заявление на приватизацию своего ветхого жилья. Никто из них даже не подумал , что сделанные за свой счёт и оплаченные из собственных средств улучшения условий проживания не только «сыграют злую шутку» при оценке их домов, но и увеличат на бумаге срок их эксплуатации. Притом разные госорганы эти сроки будут ставить разные. В своё время в 1995 году автор этой статьи услышала цифру в 32 года 6 месяцев, на что и сейчас указывает ответ районного прокурора, но вот официальный ответ чиновников из облисполкома увеличил срок службы этих домов до 50 лет.

Кратко коснусь характеристики так называемого жилья. Это щитовой деревянный дом, обложенный в полкирпича и, практически, без фундамента, так как 60 сантиметров сделанного из недолговечного красного кирпича элемента постройки давно уже трудно назвать фундаментом. И если раньше к капитальному ремонту относились и окна, и двери, и полы жилья, то сейчас всё это отдано на откуп квартиросъёмщика. Казалось, по логике, что учитывать при оценке процента износа жилья нужно только то, за что отвечает государство, но как бы не так! Если стены дома признаны изношенными на 80 %, но в доме стоят пластиковые окна, с процентом износа ноль, то БТИ даст среднюю цифру, т.е. стены могут в любой момент развалиться, но окна сохраняться на века. Таких нелепостей тьма, но в результате все эти бараки получили процент износа в пределах 55-58%, (это ж надо так уметь!!), а значит, не подлежат безвозмездной передаче (для этого нужно, чтобы износ был больше 60%), и оценены в 100-200 миллионов рублей, так как при расчёте учитывается балансовая стоимость строения. Вот её следует коснуться отдельно, так как в конце 80-х годов прошлого столетия в строительных организациях существовала практика «списывания» уворованных стройматериалов на новые объекты и балансовая стоимость бараков увеличивалась на несколько тысяч рублей. Тогда это никого не волновало, потому что трудно даже представить было, что это сыграет злую шутку при новой власти, пытающейся залатать дыры в бюджете за счёт самых бедных и бесправных граждан, так как за

*(Окончание на стр. 4)*

# ГРИМАСЫ ПРИВАТИЗАЦИИ ИЛИ «РОМАНТИКИ С БОЛЬШОЙ ДОРОГИ»

(Оконч. Начало на стр. 3)

прошедшее время состарились не только дома, но и их обитатели. В неприватизированных бараках в основном проживают пенсионеры.

Люди пытаются бороться, но система чиновничьей «вертикали» построена так, что они получают только отписки, в которых трудно разобраться даже профессионалу, а не то что простому человеку. При всех изменениях в нашей жизни за последние 20 лет, неизменными остались только чиновники, которые способны «заболтать» любую идею, и «затоптать» любого, кто попробует с ней, с этой властной прослойкой, бороться. НО!!! Народ продолжает верить, что тот, который позвал их за собой в светлое будущее по новой большой, не проторенной цивилизацией, дороге, ещё их услышит, если они донесут ему свою правду! Он рассудит, он поможет… И трудно переубедить «романтиков» с одной и другой стороны, что за счастье и за свои кровные деньги, которые пытаются отнять у них «романтики» властной «вертикали», которые загнали страну в «тупик», бороться в нашей стране можно




только с помощью независимой экспертизы и судебной власти. А пока что идёт откровенный грабёж по принципу «деньги не пахнут». И стоимость этого грабежа повышается, так как (странное дело!), чем старше дом, тем выше его стоимость для приватизации. Видимо, бараки пытаются сделать антикварным жильём, а их обитателей – редкими экспонатами. Ведь очень трудно оторвать от мизерной пенсии даже малую толику денег, чтобы расплатиться за приватизированное жильё и содержать его потом (при том, что дом требует постоянного ремонта), и при этом оставаться в живых.

Ведь кушать, как это не странно, тоже хочется всегда…

***Зинаида Мелещенко***

# БЫЛЫ ДЭПУТАТ ПАРЛАМЕНТА АД НАШАГА РЭГІЁНА БУДЗЕ ПРЫЦЯГНУТЫ ДА АДКАЗНАСЦІ ЗА “НЕДАНЯСЕННЕ”?

**Уладзімір Канаплёў праходзіць па крымінальнай справе былога намесніка генеральнага пракурора Аляксандра Архіпава.**

Яе за зачыненымі дзвярыма разглядае ў будынку Вярхоўнага суда Беларусі ваенная калегія. Як паведамляе “Інтерфакс-Запад”, Канаплёў абвінавачваецца ў “Неданясенні аб злачынстве”, яму пагражаюць грамадскія працы, штраф ці арышт на тэрмін да 3 месяцаў. Архіпаў абвінавачваецца па двух артыкулах: “Перавышэнне ўлады ці службовых паўнамоцтваў” і “Атрыманне хабару”. Яму пагражае да 15 гадоў пазбаўлення волі. Былы дэпутат Палаты прадстаўнікоў ад нашага рэгёна Уладзімір Канаплёў і Аляксандр Архіпаў застаюцца на волі, у суд яны прыйшлі самастойна.

Крымінальная справа ў адносінах былога намесніка генпракурора распачалі ў сувязі з тым, што ім была спыненая крымінальная справа ў адносінах сына бізнесмена. Той ехаў без правоў на матацыкле, не саўладаў з кіраваннем, у выніку чаго загінула 24-гадовая дзяўчына. Як у красавіку ў пасланні да парламента і беларускага народу заявіў Аляксандр Лукашэнка, Архіпаў зрабіў гэта за злітак золата і бутэльку каньяку.



***Уладзімір Канаплёў***

# МОЖЕТ ЛИ ПРЕЕМНИКОМ ЛУКАШЕНКО СТАТЬ ЕГО СТАРШИЙ СЫН?

**Зримых примет того, что президент Беларуси хочет передать власть по наследству, на сегодня нет, указывают эксперты. При этом они не исключают, что ситуация может измениться.**

В руках Виктора Лукашенко, старшего сына президента Беларуси, сосредоточена сейчас немалая власть, признают опрошенные DW аналитики. По их мнению, иных фактов, свидетельствующих о подготовке к выстраиванию президентской династии Лукашенко, у общественности сегодня нет.

Поводом для новых дискуссий на тему, о том, что Лукашенко хочет видеть своим преемником старшего сына Виктора, стали слова якобы сказанные белорусским лидером в прошлогоднем интервью газете "Известия в Украине". Издание привело такую цитату Лукашенко: "Упрекают меня, что и старший сын хочет стать президентом, это ближе к истине".

## Вопрос о преемственности

Вероятность проведения в Беларуси операции "преемник" аналитики обсуждают с конца 90-х, отмечает минский политолог Владимир Мацкевич. Правда, тогда речь шла не о сыновьях Лукашенко, а о людях из его ближайшего окружения. В те годы, говорит Мацкевич, еще кто-то надеялся, что некие приличия будут соблюдаться, и Лукашенко, несмотря на то, что к тому времени он уже нарушил конституцию, все же через какой-то срок уйдет с поста президента.

Однако, продолжает аналитик, реальная политическая ситуация в Беларуси сегодня не описывается никакими политологическими конструкциями. Поэтому, отмечает Мацкевича, сегодня и 15 лет назад вопрос о преемственности власти звучит по-разному - если в прошлом Александр Лукашенко планировал выстроить самовоспроизводящуюся систему власти, то сейчас очевидно, что белорусская модель нежизнеспособна без своего автора.

## Если не Лукашенко, то кто?

Само появление вопроса о наследовании власти Владимир Мацкевич объясняет сложностью выбора преемника среди окружения Лукашенко в условиях отсутствия в Беларуси публичной политики как таковой. Да и это окружение, как выразился Мацкевич, сплошь состоит из людей послушных и безынициативных. "Мысли о передаче власти замыкаются на семье - это логика возраста и старения человека", - объясняет политолог.

И напоминает, что старший сын Лукашенко Виктор является помощником президента по национальной безопасности и членом Совбеза, курируя весь силовой блок. Но, считает Мацкевич, должность Виктора Лукашенко - чиновничья, и держится он на ней благодаря покровительству отца. Средний сын Дмитрий, глава президентского спортклуба и член НОК Беларуси, и вовсе является, по мнению политолога, "типичным прожигателем жизни" - отпрыском политика, облеченного большой властью .

## Невероятно, но возможно?

Валерий Карбалевич, политический обозреватель и автор книги "Александр Лукашенко. Политический портрет", в свою очередь уверен, что проблема преемника сегодня в Беларуси неактуальна, потому что она возникает в случае, если существует вероятность ухода действующего главы государства в отставку. А президент никуда уходить не собирается, констатирует Карбалевич.

По его наблюдению, Виктору Лукашенко хоть формально и подчиняются сегодня все силовые структуры, сам он остается человеком непубличным, более того, его тяготит публичность. Но и особой необходимости быть на виду у него нет, замечает Карбалевич. Ведь пост Виктора Лукашенко не предполагает наличие у его обладателя какой-то общественной легитимности или утверждения со стороны парламента, пусть в нем и заседают назначенные властями депутаты.



*Виктор Лукашенко*

## Ничего исключать нельзя

Впрочем, личные качества старшего сына президента, по словам Валерия Карбалевича, имеют второстепенное значение при обсуждении вопроса о наследовании поста президента. Главное, что Александр Лукашенко не мыслит себе жизнь без власти.

Оставить ее он готов только в случае проблем со здоровьем, о чем президент сам неоднократно публично заявлял. А хоккейные, пусть и потешные, баталии подтверждают хорошую спортивную форму белорусского лидера, указывает Карбалевич.

Кроме того, продолжает он, немаловажно то, что Лукашенко - все-таки больше тактик, чем стратег, "он живет сегодняшним днем, и повода готовить себе преемника сейчас не видит". Однако и Валерий Карбалевич, и Владимир Мацкевич сходятся в том, что полностью отрицать вариант передачи власти в Беларуси по наследству в будущем нельзя. В местной архаичной политической системе может произойти даже то, что сегодня кажется невероятным и невозможным, ведь при нынешнем режиме переписать конституцию ничего не стоит, подводит итог Мацкевич.

# РЫГОР КАСТУСЁЎ: ВА ЎЛАДНЫХ БЕЛАРУСКІХ СТРУКТУРАХ ІСНУЕ ПРАРАСЕЙСКАЯ КАЛОНА

**Былы кандыдат у прэзідэнты Беларусі, наш зямляк Рыгор Кастусёў лічыць, што беларуска-ўкраінскія адносіны пасля абрання ва Украіне новага прэзідэнта практычна не зменяцца, беларускія ўлады па-ранейшаму "будуць займаць пазіцыю лавіравання", а многія высокія беларускія чыноўнікі не супраць, каб Беларусь далучылася да Расеі.**



- Я думаю, что ў беларуска-ўкраінскіх адносінах вялікіх зменаў не адбудзецца, і, хутчэй за ўсё, яны застануцца на тым узроўні, што былі і раней. Праўда, ва ўладных структурах Украіны зараз існуе рэальнае разуменне ўплыву Расеі на Беларусь. І гэта будзе тармазіць паляпшэнне адносінаў паміж двумя краінамі, а значыць паўплывае і на развіццё эканамічных стасункаў. У апошні час гэты працэс затармазіўся, адбылося вялікае скарачэнне гандлёвага абароту. Магчыма, такая тэндэнцыя захаваецца і ў бліжэйшай перспектыве.

- *З аднаго боку беларускія ўлады падтрымліваюць цэласную Украіну, а з іншага – трэба нейкім чынам размаўляць і з Масквой, каб атрымоўваць ад Крамля грошы. Як, на вашу думку, стасуюцца паміж сабой дзве такія пазіцыя?*

- Афіцыйны Менск на самой справе дэ-факта прызнаў юрысдыкуцыю Расеі на Крым, хоць у той жа час выступае за адзінства Украіны. Аднак жа нічога незвычайнага ў гэтым няма. Палітыка лавіравання – не новая для Беларусі. Успомнім, як удала адбывалася гэтае лавіраванне паміж Расеяй і Захадам.

- *Некаторыя аналітыкі мяркуюць, што Крэмль можа ў любы момант націснуць на беларускія ўлады, калі спатрэбіцца, каб апошнія занялі больш прарасейскую пазіцыю?*

- Думаю, што ціск ужо адбываецца, і ён будзе працягвацца. Таму афіцыйны Менск і круціцца, як вуж на патэльні. Патрэбныя расейскія грошы, але ж не хочацца губляць і ўкраінскага стратэгічнага партнёра, а разам з гэтым – і адносіны (якія б яны ні былі) з Захадам.

- *Лукашэнка заявіў, што Пуцін ведае яго пазіцыю па Украіне, і ў той жа час Крэмль абяцае беларускім уладам 2 мільярды даляраў. Дзе тут логіка?*

- Я б не прывязваў гэтыя 2 мільярды да ўкраінскіх падзей. Грошы Масква дае Менску, каб была падпісана дамова аб стварэнні Еўразійскага саюза, бо яшчэ ж нядаўна беларускі бок устаў на дыбкі: маўляў, не падпішам, умовы не тыя… А Еўразійскі саюз – гэта ж праект Пуціна, ён ад яго не адступіцца, і, як кажуць, за цаной не пастаіць.

- *Якія, на ваш погляд, галоўныя ўрокі павінен зрабіць афіцыйны Менск з украінскіх падзеяў?*

- Галоўны ўрок заключаецца ў тым, што пагроза аншлюсу Беларусі Расеяй была, ёсць і застаецца. І вярхоўная беларуская ўлада спалохалася, хоць шэраг беларускіх чыноўнікаў вышэйшага рангу з радасцю сустрэлі б такі аншлюс. Я бачу, што ва ўладных структурах рэальна існуе "прарасейская калона", якая спіць і марыць, каб Беларусь далучылася да Расеі. Вы ж паглядзіце, куды з'язджаюць высокія беларускія чыноўнікі пасля сваёй адстаўкі ў Беларусі. Амаль усе вельмі лёгка ўладкоўваюцца на працу ў Маскву! А атрымаць там хлебнае месца не так проста і не ўсім яго даюць. Толькі за пэўныя заслугі. І, відаць, заслужылі.

***Кастусь Заблоцкі, БРР***

## Белыничи криминальные

30 мая прокуратурой Белыничского района возбуждено уголовное дело по ст. 186 УК (Угроза убийством) в отношении неработающего, ранее судимого жителя д. Искра, 1975 г.р., который 9 мая по месту жительства, в ссоре, топором угрожал убийством своей жене, 1984 г.р. Раскрыто УИМ, сообщает uvd.mogilev.by.

21 мая Белыничским МО СК возбуждено у/д по ст. 147 ч. 1 УК (Умышленное причинение тяжкого телесного повреждения) в отношении не судимого, жителя г.п. Белыничи, 1989 г.р., который 20 мая около 13-30 в д. Осовец Белыничского района в ссоре, после совместного распития спиртных напитков, руками и ногами избил жителя г.п. Белыничи, 1989 г.р., причинив ему закрытую травму грудной клетки с повреждением легкого (пневмоторакс). Госпитализирован в УЗ «Могилевская областная больница». Виновный задержан.

# ПРА ПРЫГОННАЕ ПРАВА І МУДРЫХ КІРАЎНІКОЎ

(Працяг. Пач. на стар. 1)

справай і злодзеяў лавіць, яны глупствам мучаюцца, суправаджаючы алканаўтаў на працоўныя месцы.

Ды і Аляксандр Рыгоравіч, мабыць, забыўся, што ў Беларусі ўжо даўно на большасці прадпрыемстваў існуе кантрактная сістэма, любы дробны кіраўнік мае права звольніць працаўніка пасля сканчэння тэрміну кантракта без тлумачэння прычынаў. Людзі маўчаць, бы мышы пад венікам і выконваюць самыя тупыя распараджэнні любімых кіраўнікоў, абы не згубіць працу, аднак нейкіх значных поспехаў у эканоміцы гэта ноў-хаў беларускіх уладаў так і не прынесла.

Ну а калі нашы няўдзячныя вяскоўцы так хрэнова працуюць у галіне сельскай гаспадаркі, прапаную нашым слаўным чыноўнікам, іх дзеткам і ўнукам на асабістым прыкладзе паказаць, як добра працаваць трэба, прычым за тая ж грошы, якія атрымліваюць вяскоўцы за сваю працу ў нашых Бялыніцкім, Круглянскім і Шклоўскім раёнах. Асноўная ж частка беларускай вертыкалі ўлады з самага ніжняга ўзроўню – выхадцы з вёскі, здаецца, ім і карты ў рукі.

Ды не, ніколі не пойдуць чыноўнікі, і іх слаўныя дзеткі і ўнукі на ферму працаваць, яны лепш чарговы раз намалююць мудры ўказ, каб працаўнікі вёскі канчаткова сталі прыгоннымі. Ну а любімыя дзеткі калі і прыедуць у вёску, то толькі шашлычок пасмажыць, домік пад дачу ў Шклове пабудаваць, як Віця і Дзіма, каб на прыродзе адпачыць пасля напружанай працы ў сталіцы. Наогул, паважаныя чытачы, вы шмат бачылі дзетак нашых любімых чыноўнікаў, якія б пайшлі працаваць у сельскую гаспадарку? Рытарычнае пытанне, таму што вы самі добра ведаеце адказ…

Вялікага ж розуму, як прымусціць працаваць сельскагас-




падарчую галіну, не трэба – проста паўсюль павінен быць добры гаспадар, уласнік, сам у сябе ніхто красці і прыпісваць надоі ці прывагі не будзе. Аднак тады ляснецца ўся наша сістэма, каля якой кормяцца (і няблага) процьма чыноўнікаў і якая забяспечвае патрэбны вынік на любых выбарах, таму сучасныя ўлады на такія змены не пойдуць.

Простых жа працаўнікоў вёскі, як казалася ў адной даўняй рэкламе "карміць лепш трэба, тады і збягаць не будуць". Дарэчы, гэта добра паказвае прыклад таго ж калгаса "Радзіма" і яго старшыні Аляксандра Лапацентава, іншых лепшых гаспадарак нашага рэгіёна. Ну а калі плаціць людзям па два мільёны рублёў за катаржную працу і яшчэ нешта ад іх патрабаваць, то ніякія дэкрэты з указамі не дапамогуць. Збягуць, свалачугі, ці ў Расію, ці ў горад, а нашыя бедныя няшчасныя чыноўнікі ізноў будуць напружана думаць, як жа вяскоўцаў працаваць прымусіць…

На мінулым тыдні шэраг новых ідэй нашых любімых уладаў агучыў у выступе перад дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў і віцэ-прэм'ер беларускага ўрада Анатолій Тозік. Стала зразумела, што ў бліжэйшы час дастанецца не

(Заканчэнне на стар. 8)

# АНАЛИТИКИ СДЕЛАЛИ УЖАСАЮЩИЙ ПРОГНОЗ ПО ИНФЛЯЦИИ В БЕЛАРУСИ

**В 2014 году инфляция в Беларуси может превысить официальный прогноз в два раза. Такая оценка приводится в "Макромониторе СНГ", подготовленном аналитическим управлением Евразийского банка развития (ЕАБР).**

"Исходя из месячных темпов роста индекса потребительских цен, наблюдаемых в первые месяцы года, существует опасность приблизительно двукратного превышения инфляцией целевого значения в случае сохранения Нацбанком денежной политики в текущем состоянии", — считают экономисты Евразийского банка развития.

Напомним, потребительские цены в апреле выросли в Беларуси на 1,6%. За январь—апрель инфляция в Беларуси составила 6,6%. Между тем официальный прогноз белорусских властей на текущий год предусматривает снижение инфляции до 11% по сравнению с прошлым годом (в 2013-м потребительские цены в Беларуси выросли на 16,5%).

Между тем руководство Национального банка в апреле уже заявляло, что прогнозный параметр по инфляции в текущем году вряд ли будет выполнен. Согласно апрельской оценке Нацбанка, инфляция в текущем году в Беларуси может составить 16-17%.

Вместе с тем, несмотря на более высокие темпы инфляции по сравнению с официальным прогнозом, Нацбанк в апреле этого года снизил ставку рефинансирования с 23,5% до 22,5%. По мнению экспертов, на этот шаг денежные власти пошли под давлением правительства, которое настаивает на уменьшении стоимости кредитных ресурсов для предприятий.

*БелаПАН*

# ПРА ПРЫГОННАЕ ПРАВА І МУДРЫХ КІРАЎНІКОЎ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1, 7)*

толькі вяскоўцам, але і настаўнікам – на думку віцэ-прэм’ера, іх развялося вельмі шмат, патрэбна 80 тысяч скараціць. Ну і заадно, каб простаму народу лепш жылося, патрэбна абмежаваць колькасць наведванняў паліклінікі (хварэюць, сволачы, шмат) і абмежаваць да шасці гадоў знаходжанне дзяцей у дзіцячых садках, увесці адказнасць за неабгрунтаваны выклік хуткай і падвысіць да 15 год мінімальны стаж для атрымання пенсіі. Калі сказаць прасцей, то ўсё тут якраз зразумела – дапрацаваліся так, што ніякіх крэдытаў ужо не хапае на ўтрыманне бюджэтнай сферы, таму і думаюць. дзе б яшчэ паболей з людзей грошай садраць.

Ну а ў нашым родным рэгіёне справы пакуль ідуць па накатанай каляіне. Без вялікіх заўвагаў з боку кіраўніцтва прайшлі заланаваныя выязное пасяджэнне аблвыканкама ў Бялынічах (бюджэтнікі і камунальнікі гарадскі пасёлак “вылізалі”, як мае быць) і нарада па пытаннях аграпрамысловага комплекса на чале з Міхаілам Мясніковічам у Круглым. Праўда, узгадаў прэм’ер-міністр бялыніцкі саўгас “Падзевічы”, які ў пяць разоў больш праядае сродкаў, чым зарабляе, але ці ж гэта навіна? Зараз бялыніцкія чыноўнікі мараць пра тое, што Мікалая Кадаценку нарэшце забяруць на падвышэнне, а кіраваць у раён вернецца з Шклова былы першы намеснік старшыні Леанід Засімчук. Як кажуць, пажывём – пабачым. Наколькі нам вядома, у Шклоўскім раёне зараз сваіх праблем “вышэй за дах” (пра шматлікія злачынствы на карупцыйнай глебе шклоўскіх чыноўнікаў мы ўжо неаднаразова пісалі), а тут яшчэ Рыгоравіч хутка на радзіму ў Александрыю на Купалле прыедзе, рыхтавацца патрэбна, паказуху наводзіць.

У Круглым таксама не ўсё так добра, як хацелася б – зменшыліся заробкі працаўнікоў у асноўным прадпрыемстве ў раёне, мясцовай ПМК-266, не ўсё гладка ідзе і ў сельскагаспадарчых арганізацыях Кругляншчыны. Зноў жа, мясцовых чыноўнікаў вельмі хвалюе пытанне, ці не закране мяркуемая рэарганізацыя раёнаў на Магілёўшчыне, якую прапанаваў міністр фінансаў Мікалай Снапкоў, Круглянскі раён.

***Іван Барысаў***

## ГРАЖДАНАМ РОССИИ

Что хотите вы? Чтобы в России
Громко женщины заголосили?
Чтобы шли к вам цинковые ящики,
В них лежали бы ваши мальчики?
Чтобы вместо свадебного кортежа
Ждал на кладбище холмик их свежий?
Чтобы были вдовы, сироты?
Чтобы вас ненавидели все народы?
Что хотите вы, России граждане?
Чтобы горе пришло в дом к каждому?
Что хотите вы и ради чего?
Ради фюрера своего?
Ради планов его иллюзорных
Для России доли позорной?
Ради денег его и прибыли
Для России проклятий и гибели?
Для народа желая братского
Вы, тяжёлые цепи рабские,
Вы свободу свою предали,
Побратавшись с войной и бедами.
Вы - растоптанные и смирившиеся,
От безрадостной жизни спившиеся,
Что хотите вы? И ради чего?
Ради фюрера своего!!!!

## СОН

(написано в 1994 году)

Шла по земле обугленной пожаром....
Торчали ветки чёрные берёз...
И сердце разрывало горе, жалость,
Глаза болели от пролитых слёз.
Куда не глянь, темно и нелюдимо...
Лоскут одежды прикрывал мне грудь...
И знала я, пожаром тем единым
Не только мой оборван жизни путь.
Устав бороться от слепого ветра,
До крови ноги об каменья сбив,
Упала я, не дотянув полметра
До речки,где кровавый месяц плыл.
И глядя в небо мёртвыми глазами,
Не видя ни окраины, ни дна,
Я поняла, что я рассталась с Вами,
И что осталась я одна...Одна!!!!
И крик отчаянья в груди моей рождался,
И что-то рвал болезненно во мне...
О, Люди! Не хочу, чтоб мир дождался,
Того, что увидала я во сне!!!!

***Зинаида Милещенко***






Грамадска-палітычная газета.
Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Надрукавана на ўласным абсталяванні па адрасе: 213173, Магілёўская вобл., Бялыніцкі р-н, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Наклад 299 асобнікаў. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Падпісана ў друк 04.06.2014 г. у 11-00.